Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 12 студзеня 1999 г. | № 2 (533) | Кошт свабодны

## Паслы прылятаюць

**Паслы краінаў Еўрасаюза вяртаюцца ў Мінск у нядзелю, 17 студзеня. Пра гэта нам паведамілі ў нямецкай амбасадзе.**

Нагадаем, што паслы Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Японіі і іншых заходніх краінаў «на няпэўны тэрмін» пакінулі Беларусь 22 чэрвеня мінулага года. Прычынай паслужыла высяленне беларускімі ўладамі замежных дыпламатаў з іх рэзідэнцыяў у комплексе «Дразды». Скандал набыў міжнародныя маштабы, але толькі напрыканцы мінулага года беларускія ўлады пайшлі на ўступкі і паабяцалі дыпламатам «шырокі доступ» у Дразды. Прэзідэнт Лукашэнка паспяшаўся абвесціць, што паслы Еўрасаюза вернуцца ў Беларусь да старога Новага года. Аднак дыпламаты плануюць з'явіцца ў Мінску толькі 17 студзеня. Чакаецца, што яны прыляцяць рэйсам авіякампаніі «Люфтганза» ў 13 гадзінаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Пракуратура пратэстуе

**Даведаўшыся з газетных паведамленняў пра маючыя адбыцца ў бліжэйшы час сесію Вярхоўнага Савета і Кангрэс дэмакратычных сілаў, пракуратура Беларусі выступіла з заявай.**

Пракуратура мяркуе, што сесія Вярхоўнага Савета 13-га склікання, *«на якой плануецца распачаць працу па арганізацыі датэрміновых выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»*, а таксама Кангрэс дэмакратычных сілаў, *«які будзе суправаджацца несанкцыяванымі пікетамі і мітынгамі»*, не адпавядаюць Канстытуцыі Беларусі і дзеючаму заканадаўству. *«Такія дзеянні могуць расцэньвацца не інакш як спроба захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, намер дэстабілізаваць сітуацыю ў грамадстве, справакаваць масавыя беспарадкі»*, — гаворыцца ў заяве.

Аўтары заявы папярэджваюць, што *«арганізацыя і ўдзел у такіх проціпраўных дзеяннях пацягне за сабой як крымінальную, так і адміністратыўную адказнасць»*, і заклікаюць грамадзян рэспублікі *«не паддавацца на правакацыйныя звароты арганізатараў такіх мерапрыемстваў, устрымацца ад удзелу ў іх правядзенні»*.

*БелаПАН*

## Шчукін зноў у турме

Як паведаміла праваабарончая арганізацыя «Вясна-96», сёння выконваючы абавязкі суддзі Савецкага раённага суда г.Мінска Ганчарык А.М. на другім судовым паседжанні прысудзіў 10 сутак арышту вядомаму апазіцыянеру В.Шчукіну па арт. 167 ч.2 КаАП — парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў.

Тэрмін быў прысуджаны за перакрыццё праспекта ў знак пратэсту супраць падпісання беларуска-расійскіх пагадненняў 25 снежня 1998 года. Як лічаць сам Шчукін і ягоны адвакат, ён выказваў асабісты, а не масавы пратэст, але гэта не было прынята судом да ведама. Пакаранне Шчукін будзе адбываць у спецпрыёмніку па вул. Акрэсціна. Яго яшчэ чакае суд за ўдзел у мітынгу ў гонар 50-годдзя Дэкларацыі аб правах чалавека.

**П.А.**

## На аўдыенцыі ў Папы Рымскага

**У Мілане адбылося спатканне моладзі з еўрапейскіх краінаў, у якім удзельнічалі і беларусы. З Гродна ездзілі 47 чалавек, з імі 4 ксяндзы і манашка.**

Пяць дзён моладзь правяла ў супольных малітвах і спевах, а потым паехала ў Рым. На пляцы Святога Пятра ў Ватыкане, калі чытаў сваю малітву Ян Павел II, гродзенцы трымалі транспарант з тэкстам на польскай мове, у якім выказвалася надзея, што Папа Рымскі наведае Беларусь. Ян Павел II прыняў беларускую моладзь у сябе. Аўдыенцыя працягвалася хвілінаў 15. У канцы яе кожны з удзельнікаў развітаўся з ім, цалуючы на руцэ сыгнэт — сімвал папскай улады.

Перад ад'ездам з Рыма ў аўтобус зайшла карэспандэнтка беларускай праграмы Ватыканскага радыё, якая пацікавілася, ці валодае хто-небудзь з моладзі беларускай мовай. Але ўсе размаўлялі па-руску. Беларускай мовай карыстаўся толькі адзін студэнт — першакурснік Гродзенскага універсітэта.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Адзінага кандыдата ў прэзідэнты?

Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва», у складзе якога 32 грамадскія і палітычныя арганізацыі, звярнуўся да ўсіх рэгіянальных дэмакратычных аб'яднанняў з прапановай не ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя Саветы, а таксама падтрымаць ініцыятыву ВС аб правядзенні прэзідэнцкіх выбараў сёлетняй вясной. Камітэт лічыць, што дэмакратычныя сілы павінны выставіць на выбары агульнага кандыдата.

**С.А.**

# Прэзідэнцкія выбары прызначаны

**Вярхоўны Савет 13-га склікання абвясціў у нядзелю дату прэзідэнцкіх выбараў. Яны павінны адбыцца 16 траўня гэтага года.**

За гэтае рашэнне прагаласавала 44 дэпутаты разагнанага Лукашэнкам парламента, што сабраліся 10 студзеня на сваё амаль падпольнае паседжанне ў мінскім гатэлі «Турыст». Вярхоўны Савет аднавіў дзейнасць Цэнтральнай выбарчай камісіі на чале з Віктарам Ганчаром, які быў зняты з гэтай пасады напярэдадні рэферэндуму ў 1996 годзе. Старшыня Цэнтрвыбаркама запэўніў дэпутатаў, што яго ведамству пад сілу сфармаваць выбарчыя камісіі на месцах і забяспечыць нармальнае правядзенне выбараў. Ганчар таксама паведаміў, што ён правёў кансультацыі з прадстаўнікамі амбасадаў заходніх краінаў і міжнародных структураў, якія паабяцалі падтрымку ў правядзенні выбараў. Выбарчая кампанія, па словах старшыні Цэнтрвыбаркама, будзе фінансавацца са спецыяльна створанага фонду. Дэпутаты прызнаюць, што іхняе рашэнне не носіць, хутчэй, фармальны характар. Абвяшчэнне выбараў, на іх думку, павінна паспрыяць аднаўленню дэмакратыі і законнасці ў краіне.

Старшыня ВС Сямён Шарэцкі ў сваім выступе падкрэсліў, што народ у 1994 г. абраў Лукашэнку на пяць гадоў і ніякія рэферэндумы замяніць прамыя прэзідэнцкія выбары не могуць. Спікер Шарэцкі прыгадаў толькі адну асобу ў новай гісторыі, якая працягвала свае ўладныя паўнамоцтвы шляхам рэферэндуму — гэта быў канцлер Трэцяга рэйху Адольф Гітлер. У якасці станоўчага прыкладу Шарэцкі прывёў казахскага прэзідэнта Назарбаева, які не паддаўся спакусе арганізаваць сумнеўны плебісцыт і пайшоў на легітымныя выбары.

Дэпутат ВС Станіслаў Шушкевіч вельмі задаволены прынятым рашэннем. Ён лічыць, што гэтая акцыя паспрыяе кансалідацыі апазіцыйных сілаў, аднак не выключае, што Лукашэнка можа пайсці на самыя крайнія меры супраць арганізатараў выбараў.

На думку Шушкевіча, прэзідэнт абраў сілавы шлях вырашэння гэтай праблемы, сведчаннем чаго з'яўляецца заява Генпракуратуры, у якой дэпутаты абвінавачваюцца ледзь не ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту.

Дарэчы, старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар адмовіўся каментаваць гэтую пракурорскую заяву, «паколькі яна не грунтуецца на беларускім заканадаўстве». Рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты павінна пачацца з 1 сакавіка.

З'явіўся ўжо і першы кандыдат. Як нам стала вядома, цяпер у краіне актыўна арганізуюцца групы падтрымкі былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



# Фонд Сораса зноў апраўданы

**Беларускі фонд Сораса (БФС) не парушаў падатковага заканадаўства — такое рашэнне прыняла калегія Вышэйшага гаспадарчага суда. Суддзі цалкам рэабілітавалі Беларускі фонд Сораса, што, аднак, не азначае хуткага аднаўлення яго дзейнасці.**

Справа супраць Фонду ўзнікла амаль два гады таму, калі падатковая інспекцыя Ленінскага раёна Мінска вырашыла, што «сорасаўцы» няправільна выплачвалі падаткі ды допускалі іншыя парушэнні. У выніку на Фонд быў накладзены штраф памерам амаль у 3 мільёны долараў. Фонд адмовіўся плаціць гэтыя грошы. У адказ у верасні 1997 года ўлада арыштавала маёмасць Фонду, і з тых часоў гэтая дабрачынная арганізацыя ў Беларусі не дзейнічае. Між тым, судовыя цяжбы працягваліся, прычым з пераменным посьпехам. Спачатку ў мінскім абласным гаспадарчым судзе Фонд быў прызнаны невінаватым, потым больш высокая судовая інстанцыя пацвердзіла ягоную запазычанасць дзяржаве. Нарэшце справа дайшла да калегіі Вышэйшага гаспадарчага суда, якая вырашыла, што ранейшыя прэтэнзіі да БФС неправамоцныя.

Ці азначае гэтая навіна, што Фонд Сораса хутка зноў вернецца ў Беларусь? Старшыня назіральнага савета БФС Сяргей Лёўшуноў утрымліваецца ад аптымістычных прагнозаў, хоць і вітае рашэнне гаспадарчага суда. Па-першае, падатковая інспекцыя можа яшчэ раз абскардзіць судовы вырак, што зноў замарозіць дыялог Сораса з беларускімі ўладамі. Па-другое, канфлікт зайшоў дастаткова далёка, і каб вярнуць Фонд у Беларусь, спатрэбіцца шмат кансультацыяў, лічыць Сяргей Лёўшуноў.

Між тым, існуе меркаванне, што гэтае рашэнне не ёсць пазіцыя толькі суддзяў. Дастаткова нечаканае апраўданне БФС звязваецца з новым кіраўніцтвам міністэрства замежных справаў і ягонымі спробамі хоць неяк прабіць лёд міжнароднай ізаляцыі вакол Беларусі. Паводле планаў гэтых «наватараў» наступным дасягненнем пасля вяртання паслоў у Дразды і павінна стаць вяртанне ў Мінск «дзядулі Сораса».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Афіцыйныя Каляды

**У чацвер, 7 студзеня, у мінскім Свята-Духавым катэдральным саборы адбылося ўрачыстае калянднае набажэнства, на якім прысутнічала высокае начальства.**

У мінулыя гады набажэнства пачыналася пасля таго, як прэзідэнт Лукашэнка ставіў свечку каля абраза Мінскай Божай маці і займаў сваё месца на салі, узвышэнні перад іканастасам. Сёлета Рыгоравіч моцна спазніўся і зайшоў на салю ўжо падчас набажэнства. Ахоўнікам даваліся літаральная прадзіраца паміж вернікамі, якія маліліся ў царкве. Свечку перад абразом прэзідэнт усё ж паставіў — пасля набажэнства. Мітрапаліт Філарэт перадаў яму каляндны падарунак ад Патрыярха Маскоўскага Алексія II.

Крыху раней за кіраўніка дзяржавы, але таксама са спазненнем, на калянднае набажэнства прыехаў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг. Ён заняў сваё месца ў правым крыле царквы, калі ўжо была прачытаная палова калянднага пасланія мітрапаліта Філарэта.

Дысцыплінаванасць праявіў кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч, які прысутнічаў на службе ад пачатку і да канца.

**А.Д.**

## Беларускі заробак

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі падлічыла даходы беларусаў за студзень-лістапад 1998 года.**

Самы высокі заробак за гэты перыяд быў у кіраўнікоў прадпрыемстваў — у сярэднім 8,4 мільёна рублёў у месяц, у работнікаў прадпрыемстваў трубаправоднага транспарту (8,3 мільёна), у банкіраў (8 мільёнаў) і мытнікаў (7,7 мільёна).

У той жа час сярэдняя зарплата настаўнікаў склала 3,8 мільёна рублёў, прафесарска-выкладчыцкага персаналу — 5,7 мільёна; урачоў — крыху больш за 5 мільёнаў рублёў.

Найбольш нізкі ўзровень зарплаты адзначаны ў сферы сацыяльнага забеспячэння, сельскай гаспадарцы, а таксама ў галіне мастацтва і культуры.

*БелаПАН*

## Міжгародні аўтобус ад МАЗа

Сёння а 11-й гадзіне на аўтобусным філіяле Мінскага аўтамабільнага завода адбудзецца ўрачыстая цырымонія выпуску першага міжгародняга аўтобуса МАЗ-152.

*БелаПАН*

# Прыватныя ахоўнікі скардзяцца на прэзідэнта

*Як наступ на свае правы расцанілі прыватныя ахоўнікі дэкрэт прэзідэнта № 24 «Аб мерах па ўдасканаленні ахоўнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь»*

Дэкрэт, які быў падпісаны Лукашэнкам да каталіцкіх Калядаў, а ўбачыў свет ужо пасля навагодніх святаў, прывёў прыватных ахоўнікаў у шок. Былыя вайскоўцы, міліцыянты і гэбісты, яны ніяк не чакалі такога ўдару з боку «роднай дзяржавы». *«Мы галасавалі за Лукашэнку, і зараз вельмі расчараваныя сваім выбарам»*, — кажа кіраўнік адной з прыватных ахоўных фірмаў. Ён не жадае называць сваё імя, бо не выключае помсты з боку дзяржаўных чыноўнікаў. Аднак і пакорліва чакаць «міласці зверху» ахоўнікі не збіраюцца. Днямі ў Мінску яны правялі сход ініцыятыўнай групы, якая распрацавала зварот. Гэты дакумент быў адпраўлены ў савет бяспекі на імя дзяржсакратара Віктара Шэймана. Сілавікі ў адстаўцы звяртаюцца да дзеючага сілавіка, спадзеючыся яму давесці, што прэзідэнт абышоўся з імі непрадбачліва. Што ж так абурыла прыватных ахоўнікаў у прэзідэнцкім дэкрэце?

На думку недзяржаўных ахоўнікаў, гэты дакумент фактычна ўводзіць дзяржаўную манаполію на рынку ахоўных паслугаў. Па сутнасці, увесь гэты рынак аддаецца дзяржаўным арганізацыям, галоўнай сярод якіх будзе аб'яднанне «Ахова» пры міністэрстве ўнутраных справаў. Гэтай канторы гарантаваныя проста царскія прывілеі. Мала што ёй як дзяржаўнай арганізацыі непатрэбная ліцэнзія, дык яшчэ начальнік «Аховы» будзе назначацца ды змяняцца асабіста прэзідэнтам. Таксама сам кіраўнік дзяржавы будзе зацвярджаць спіс аб'ектаў, пільнаваць якія могуць толькі спецыялісты «Аховы». Пры гэтым усе грошы, якія «Ахова» заробіць, у тым ліку і абслугоўваючы бізнес, як сказана ў дэкрэце, *«не накіроўваюцца ў рэспубліканскі бюджэт»*.

Ці шмат «Ахова» заробіць грошай? Мяркуючы па дэкрэце № 24, дзяржаўныя ахоўнікі збяруць «смятанку» фактычна з усіх дробных і сярэдніх фірмаў, якія не маюць грошай на стварэнне асабістых ахоўных структураў. У дэкрэце так і гаворыцца: *«Ахоўная дзейнасць у органах, на прадпрыемствах, ва ўстановах, адміністрацыях ажыццяўляецца толькі іх штатнымі работнікамі або аб'яднаннем «Ахова»*. І яшчэ: *«Прадпрыемствам забараняецца ажыццяўляць ахову фізічных асобаў, якія не з'яўляюцца іх штатнымі работнікамі, і не прыналежных ім аб'ектаў»*.

Па дадзеных Федэрацыі недзяржаўных ахоўных службаў Беларусі, у гэтым бізнесе працуе звыш 30 тысяч грамадзянаў. Рэалізацыя дэкрэта, на думку экспертаў федэрацыі, пакіне большасць гэтых людзей без працы. Ахоўныя фірмы, каб мець прыбытак, вымушаныя працаваць як мінімум з некалькімі кліентамі, а дэкрэт прымушае іх мець аднаго гаспадара. Да таго ж, па прагнозах, абавязкова ўпадзе якасць паслугаў: калі побач няма прыватнага канкурэнта, то дзяржаўны ахоўнік лягчэй будзе «спаць у шапку». Але самым небяспечным наступствам дэкрэта № 24 стане, па ацэнках спецыялістаў, перакваліфікацыя многіх ахоўнікаў у «рамантыкаў з вялікай дарогі». *«Калі ты спецыяліст па ахове, то лёгка знойдзеш і спосаб украсці*, — дзеліцца сваім расчараваннем кіраўнік ахоўнай фірмы. — *Мае людзі нічога іншага не ўмеюць, як пільнаваць аб'екты. Аказаўшыся па той бок агароджы, яны знойдуць магчымасць сюды вярнуцца, але ўжо як зладзеі»*.

Скарга прыватных ахоўнікаў на прэзідэнцкі дэкрэт, па нашых дадзеных, адказу пакуль не атрымала.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Назад у 1990 год

**Настальгія па савецкім мінулым усё больш авалодвае мінскімі гарадскімі ўладамі.**

Як паведамляе агенцтва БелаПАН, Мінскі гарвыканкам зацвердзіў пералік мерапрыемстваў *«па дасягненні ў 2001 годзе ўзроўню 1990 г. па асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця Мінска»*.

Згодна з дакументам, пры падвядзенні вынікаў сацыяльна-эканамічнага спаборніцтва сярод раёнаў Мінска ў першую чаргу павінны ўлічвацца дасягненні па аб'ёме прамысловай вытворчасці ўзроўню 1990 года, а таксама *«перавыкананне ўстаноўленых на год заданняў па аб'ёмах прамысловай вытворчасці, выпуску тавараў народнага спажывання, рознічнага тавараабароту і аказання платных паслуг»*.

Акрамя таго, ад прадпрыемстваў горада патрабуецца да 1 красавіка распрацаваць праграмы імпартазамяшчэння на 1999 год — каб па магчымасці адмовіцца ад набыцця замежнай прадукцыі і не траціць каштоўную валюту. Кантролем за выкананнем гэтага задання будуць займацца адміністрацыі раёнаў.

**Зміцер САЛАЎ**

## Ва ўласнай кватэры жывецца лепей

**З 1989 года і па лістапад 1998 года ва ўласнасць грамадзянаў Беларусі перайшло 854,4 тысячы кватэр — гэта амаль палова ўсёй колькасці кватэр, што падлягаюць прыватызацыі. Пра гэта паведамляе міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі.**

Паводле інфармацыі міністэрства, толькі за студзень-лістапад 1998 года беларускія грамадзяне прыватызавалі 76,4 тысячы кватэр. Гэта некалькі больш, чым за аналагічны перыяд 1997 года.

Кватэры актыўней за ўсё прыватызаваліся ў Мінску (23,1 тысячы кватэр або 30 працэнтаў ад агульнай колькасці кватэр, прыватызаваных сёлета), у Гомельскай (13,8 тыс.кватэр) і ў Віцебскай (10,8 тыс. кватэр) абласцях.

*БелаПАН*

## Падарунак на Каляды

**На Каляды, 7 снежня, у сталічным Тэатры оперы і балета пры ўдзеле Аляксандра Лукашэнкі і мітрапаліта Філарэта адбылася цырымонія ўручэння спецыяльных прэзідэнцкіх прэміяў дзеячам культуры і мастацтва Беларусі.**

Спецыяльныя прэміі прэзідэнта прысуджаюцца ў нашай краіне ўжо трэці год, паралельна з традыцыйнымі Дзяржаўнымі прэміямі Беларусі. Памер спецыяльных узнагародаў утрая меншы за Дзяржаўную прэмію (якая, дарэчы, складае сёлета 175 мільёнаў рублёў). Аднак у шэрагі ўдастоеных прэзідэнцкай прэміі трапляе больш людзей, шырэй прафесійнае кола лаўрэатаў, а яшчэ — упершыню ў гісторыі нашай дзяржавы прэмію могуць атрымаць асобы, якія маюць духоўны сан.

Сёлета каля трыццаці працаўнікоў культуры розных прафесіяў мелі шчасце атрымаць ад прэзідэнта прызнанне сваіх заслуг, памерам у 50 мільёнаў рублёў. Не пакрыўджаная ніводная з музаў — у спісе ёсць прадстаўнікі ўсіх мастацтваў, а таксама бібліятэчныя і музейныя работнікі, святары, літаратары і журналісты. Пяць лаўрэатаў удастоіліся найбольш значнай прэміі «За духоўнае адраджэнне» — гэта калектыў газеты «Культура», рэктар Беларускай акадэміі музыкі М.Казінец, галоўны мастак мінскага Тэатра музычнай камедыі Я.Ждан, рэгент хора аднаго з сталічных храмаў Ю.Шамко і айцец Георгій Шаўцоў, настаяцель царквы з г.Бяроза.

Прывітальная прамова, з якой звярнуўся да герояў духоўнага адраджэння прэзідэнт Лукашэнка, была на культурнай рускай мове і, як звычайна, поўнілася шчодрымі абяцаннямі.

**Алена СУРКО**

## Плітаў ад дзяржавы больш не будзе

*Як і сантэхнікі*

**Мінскія гарадскія ўлады знайшлі яшчэ адну магчымасць сэканоміць дзяржаўныя сродкі — на капітальным рамонце жылых дамоў. Пра гэта паведамляе агенцтва БелаПАН.**

Згодна з рашэннем Мінскага гарвыканкама, замена сантэхнічнага абсталявання і кухонных плітаў у дзяржаўных і прыватных кватэрах будзе цяпер праводзіцца толькі за кошт саміх грамадзянаў. Бюджэтныя сродкі для гэтага больш выкарыстоўвацца не будуць.

Пры рэканструкцыі жылых дамоў у кватэрах, жыхары якіх адселеныя на пастаяннае месца пражывання, забаронена праводзіць на дзяржаўныя грошы аддзелачныя работы, насціланне падлог і абсталяванне ўбудаванай мэблі, устаноўку сантэхнічнага абсталявання, газавых і электрычных плітаў, а таксама ўнутраных дзвярэй.

Гарвыканкам вырашыў таксама, што падчас капітальнага рамонту жылых дамоў абавязковая ўстаноўка ў пад'ездах уваходных металічных дзвярэй.

**Зміцер САЛАЎ**



# Прадаецца царква

**Маладзечанская фірма «Мерра» збіраецца прадаць царкву, збудаваную ёю ў вёсцы Аляхновічы Маладзечанскага раёна. На крайнюю меру фірму падштурхнула пагроза поўнага банкруцтва.**

Два гады таму па просьбе вернікаў вёскі Аляхновічы «Мерра» распачала тут будоўлю праваслаўнай святыні. Прыгожая царква вырасла на горцы, непадалёк ад чыгуначнага вакзала. У яе абрысах спалучаюцца традыцыі беларускага драўлянага дойлідства і наватарства сучаснай архітэктуры. Аўтар праекта, дырэктар фірмы «Мерра», 77-гадовы Міхаіл Новікаў, тлумачыць сваю задуму так: апоры чатырох купалоў, якія па форме нагадваюць раскрытыя кнігі, сімвалізуюць чатыры часткі Евангелля. На царкве і званіцы ззяюць сем крыжоў. Вышыня будынка — 28 метраў, змясціцца ў ім могуць каля 400 чалавек. Інтэр'ер драўлянай царквы аздаблее традыцыйная разьба.

Новая царква ў Аляхновічах гатовая да асвячэння, але ўзнікла пытанне, хто ж з'яўляецца яе ўласнікам. Фірма патраціла на будаўніцтва амаль тры з паловай мільярды рублёў сваіх абаротных сродкаў, і цяпер гэтыя грошы ёй павінны вярнуць вернікі.

Сам патрыяршы экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт звярнуўся ў пошуках сродкаў на гэтую справу да багатага чалавека — кіраўніка справамі прэзідэнта Івана Ціцянкова, а таксама да дырэктараў шэрагу прадпрыемстваў. Міхаіл Новікаў у сваю чаргу накіраваў лісты аналагічнага зместу прэзідэнту Лукашэнку, віцэ-прэм'еру Уладзіміру Замяталіну, першаму намесніку кіраўніка адміністрацыі Уладзіміру Русакевічу і некаторым міністрам. Чыноўнікі пакуль маўчаць, толькі Замяталін перааддрасаваў просьбу старшыні Нацыянальнага банка Пятру Пракаповічу, каб той знайшоў у казне грошы на доўгатэрміновы крэдыт для фірмы «Мерра», што здзейсніла багаўгодную справу.

У выніку на рахунак «Мерры» паступіла 135 мільёнаў рублёў. Гэтых грошай не хапіла нават на зарплату, якую 130 супрацоўнікаў фірмы не атрымлівалі з верасня мінулага года. Збудаваўшы царкву, «Мерра» трапіла ў цяжкае фінансавае становішча, і ёй пагражае самаліквідацыя, а майстрам — беспрацоўе. Адначасова спыніцца работа на васьмі аб'ектах — рэстаўрацыя касцёлаў у Валожыне і Заслаўі, будаўніцтва праваслаўнай царквы ў вёсцы Зембін Барысаўскага раёна, рэканструкцыя пасля пажару заслаўскага кальвінскага збору — знанага архітэктурнага помніка, які цяпер належыць праваслаўным. «Мерра» таксама займаецца ўзвядзеннем у Ракуцёўшчыне сядзібы-музея Максіма Багдановіча.

На Каляды ў новай царкве ў Аляхновічах не было набажэнстваў. Мясцовы святар айцец Уладзімір адмаўляецца тут адпраўляць службы, кажа, што ў новай царкве холадна. Не устаноўленыя і абразы, якія былі зробленыя для іканастаса за грошы фірмы «Мерра». *«Калі царква непатрэбная святару*, — заяўляе Міхаіл Новікаў, — *то я цяпер вымушаны выравашыць яе будучыню. Тут павінны праходзіць службы хрысціянскай канфесіі»*. Дырэктар шукае пакупніка, які б прыкладна за 25 тысяч долараў купіў новы храм. Прычым ён згаджаецца прадаць царкву не толькі праваслаўным, але і ўніятам.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

МОСКОВСКИЙ ПАТРИАРХАТ — MOSCOW PATRIARCHATE

МИТРОПОЛИТ МИНСКИЙ И ГРОДНЕНСКИЙ ПАТРИАРШИЙ ЭКЗАРХ ВСЕЯ БЕЛОРУССИИ — METROPOLITAN OF MINSK AND GROD[NO] PATRIARCHAL EXARCH OF ALL BIELORUSS[IA]

220004, г. Минск, ул. Освобождения, 10. Тел. 23-73-48, 26-77-40 — 10 Osvobozhdenija str. 220004 Minsk U[SSR] Tel. 23-73-48, 26-77-[40]

№ 31.37 «22» декабря 19 98

УПРАВЛЯЮЩЕМУ ДЕЛАМИ
ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ТИТЕНКОВУ И.И.

МНОГОУВАЖАЕМЫЙ ИВАН ИВАНОВИЧ!

Прихожане православного Свято-Иоанно-Предтеченского прихода в с.Олехновичи Молодечненского района пожелали построить новый деревянный храм, на что собрали небольшие средства и упросили МСРПП фирму «МЕРРА» вести строительство как подрядчика. Но средств, собранных ими достало только на устроение фундамента.

Фирма «МЕРРА», начав богоугодное дело, не могла приостановить начатое строительство и довела дело до конца. Здание храма выполнено в стиле деревянного народного белорусского зодчества, семикупольное, вместимостью до 400 человек, расположено на холме, возвышающимся над всем поселком и местностью. Храм готов к освящению.

Но фирма «МЕРРА» затратила собственных средств около 3,0 миллиардов рублей, чем создала для себя очень затруднительное финансовое положение, которое могут поправить только добровольные пожертвования попечителей.

Зная Вашу доброжелательность в делах благотворительности, прошу Вас оказать посильную помощь на оплату расходов на строительство выше указанного храма посредством привлечения известных Вам спонсоров-доброхотов, перечислив средства на

С глубоким уважением

МИТРОПОЛИТ МИНСКИЙ И СЛУЦКИЙ,
ПАТРИАРШИЙ ЭКЗАРХ ВСЕЯ БЕЛАРУСИ.

Расчетный счет фирмы «МЕРРА» № 3012202560012 в Молодечненском отделении Белбизнесбанка, код 738.

## Назарбаеў – зноў прэзідэнт



**У нядзелю ў Казахстане прайшлі выбары прэзідэнта краіны. Прэзідэнтам зноў абраны 58-гадовы Нурсултан Назарбаеў. Як паказалі папярэднія вынікі, за яго прагаласавала больш за 80 працэнтаў выбаршчыкаў.**

На пасаду прэзідэнта прэтэндавалі 4 кандыдаты — Нурсултан Назарбаеў, выкладчык сельскагаспадарчага ВНУ камуніст Серыкбальсын Абдзільдзін (61 год), сенатар-эколаг Энгельс Габасаў (61 год) і 48-гадовы старшыня мытнага камітэта Гані Касымаў. За прадстаўніка камуністычнай партыі было пададзена каля 12 працэнтаў галасоў, астатнія кандыдаты не набралі і 5 працэнтаў.

Актыўнасць выбаршчыкаў была вельмі высокай — на ўчасткі прыйшло больш за 85 працэнтаў ад 8 мільёнаў чалавек, што мелі права голасу. На выбарах прысутнічалі 220 міжнародных назіральнікаў. Тым не меней, многія заходнія аналітыкі адзначаюць, што выбары не былі свабоднымі. У якасці прыкладу яны прыводзяць той факт, што галоўны канкурэнт Назарбаева, былы прэм'ер-міністр Акеджан Кажэгельдын, быў пазбаўлены магчымасці ўдзельнічаць у выбарах — за арганізацыю несанкцыяванага мітынгу ён быў адміністратыўна пакараны, і таму, паводле прэзідэнцкіх направак да Канстытуцыі краіны, не змог выставіць сваю кандыдатуру на выбарах.

Нурсултан Назарбаеў паабяцаў, што будзе працягваць інтэграцыйную палітыку ў рамках СНД. Тым не меней, у яговых планы не ўваходзіць далучэнне Казахстана да Саюза Беларусі і Расіі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***Біяграфічная даведка***

*Нурсултан Абішавіч Назарбаеў нарадзіўся ў 1940 годзе ў сям'і селяніна. Па адукацыі — інжынер-металург. Некалькі гадоў працаваў на Карагандзінскім металургічным заводзе, потым перайшоў на партыйную працу. Скончыў Завочную вышэйшую партшколу пры ЦК КПСС. З 1984 года — старшыня Савета міністраў Казахскай ССР, з 1989-га — першы сакратар ЦК кампартыі Казахстана, першы чалавек у рэспубліцы.*

*У красавіку 1990 года Нурсултан Назарбаеў стаў першым прэзідэнтам Рэспублікі Казахстан. У 1995 г. Назарбаеў правёў агульнарэспубліканскі рэферэндум, у выніку якога яговы паўнамоцтвы працягнуліся да 2000 года. Выбары, што прайшлі ў нядзелю, былі датэрміновымі — іх ініцыраваў сам прэзідэнт. Цяпер Назарбаеў будзе прэзідэнтам яшчэ сем гадоў.*

# Год Советского Союза

**Виталий ПОРТНИКОВ**

Несмотря на новогодние праздники, российские официальные лица продолжали говорить о перспективах грядущего объединения своей страны с Республикой Беларусь. Как о решенном деле отозвался об этом во время своей встречи с журналистами специальный президентский представитель в странах СНГ полузабытый Иван Рыбкин; в российско-белорусских интеграционных структурах появился весьма известный в прошлом политик, бывший председатель карельского правительства Виктор Степанов... Словом, активно создавалось впечатление, что работа над созданием союзного государства идёт и ничто ее уже не остановит, даже долгие праздники не помеха, не то что там какой-то экономический кризис!

### Как это было

В июле 1994 года на первых президентских выборах в Беларуси побеждает депутат парламента этой республики Александр Лукашенко, известный своими демагогическими антикоррупционными выступлениями и травлей отца белорусской государственности Станислава Шушкевича. Номенклатура Беларуси во главе с премьер-министром Вячеславом Кебичем вначале активно использует напор Лукашенко для борьбы с Шушкевичем и немногочисленными демократами (даже и не национал- демократами, а просто, скажем так, — порядочными людьми), однако затем оказывается не в состоянии его остановить: Кебич проигрывает выборы Лукашенко. Российская политическая элита относится к победителю крайне настороженно. Единственной силой, поддерживавшей Лукашенко накануне выборов, была ЛДПР Владимира Жириновского: Жириновский и Лукашенко проводят даже совместную пресс-конференцию в Государственной думе, не привлекшую почему-то внимание наблюдателей. Более того, когда накануне второго тура выборов — а победа на нем Лукашенко уже очевидна — в Минск прибывает российский премьер Виктор Черномырдин, он отказывается общаться с будущим главой белорусского государства и проводит время в теплых контактах с утрачивающим власть Кебичем. Даже после победы Лукашенко российская «партия власти» продолжает относиться к нему настороженно: белорусский президент не скрывает своих симпатий к российским оппозиционерам и не оставляет критики решений в Беловежской пуще, будто не замечая среди участников исторической встречи президента российского. Более того, российское правительство даже воспользовалось избранием Лукашенко, чтобы похоронить авантюрную идею об объединении российской и белорусской валют. Этот план был разработан во многом для поддержки президентских амбиций Кебича, и после его поражения либералам в российском правительстве без особого труда удалось убедить сторонников интеграции в бессмысленности единой валюты. (После целого ряда неудачных попыток возвратиться к этой идее Лукашенко вновь говорит о ней во время обнародования намерений о создании союзного государства, но и в этом случае российские и белорусские источники совершенно по-разному трактуют возможности появления «рублезайчика».)

Интеграционные предложения Александра Лукашенко оказались востребованы только в преддверии президентских выборов в России. Главный оппонент российского президента, Геннадий Зюганов, не забывал клеймить позором разрушителей единого и неделимого Союза ССР, и Борису Ельцину срочно понадобилось стать интегратором №1. Под звон колоколов в Кремле было подписано соглашение о создании Содружества России и Беларуси, и захмелевший от удачи Лукашенко брякнул о мрамор Грановитой палаты хрустальный бокал — чтоб знали, кого в дом пускать... Однако, как и любое предвыборное мероприятие, Содружество оказалось образованием чисто декларативным и, ни создание его структур, ни дальнейшее преобразование в Союз России и Беларуси, ни появление союзного парламента из депутатов российской Государственной думы и никем не признанного Национального собрания Беларуси не добавили объединению эффективности.

Впрочем, свою положительную роль российско-белорусский союз все-таки сыграл: Ельцин и Лукашенко оказались настоящими могильщиками СНГ. Ставшая модной в российских политических кругах идея о разноскоростной интеграции — помимо бессмысленного российско-белорусского союза существует еще и неэффективный таможенный союз четырех (теперь — пяти; для окончательного успеха наркотранзита в него включили Таджикистан) — явно не понравилась руководителям других бывших советских республик, не уразумевшим, почему в постсоветском «скотном дворе» одни животные равнее других. На знаменитом Кишиневском саммите руководителей стран СНГ Ельцин и Лукашенко были подвергнуты уничтожающей критике, после чего и появилось решение о реформировании Содружества. Но поскольку на следующем саммите Ельцину навязали в качестве исполнительного секретаря СНГ Бориса Березовского (а Лукашенко трясет при упоминании этой фамилии), стало ясно, что Содружеству как реально действующей структуре подписан приговор...

### Наш ответ кризису

Впрочем, появление в морге одного покойника еще не обещает оживления другого. От того, что не работает СНГ, не стало лучше Союзу России и Беларуси. Зато после 17 августа возникли сомнения в привлекательности интеграции как таковой. И если у российского электората это были, так скажем, побочные проблемы на фоне закрывающихся банков и стремительно растущего курса национальной валюты, то для электората Лукашенко 17 августа могло поставить под вопрос саму идею единения с Россией — не просто главную, но единственную, кажется, идею этого президентства — ну что еще озабоченный исключительно укреплением собственной власти Лукашенко может предложить белорусам?

Сомнения на фоне ухудшающегося положения самой Беларуси, давно уже превратившейся в страну карманной прессы и социалистических очередей, требовали энергичной реакции. И она последовала. Лукашенко метнулся в Москву.

Вряд ли можно было найти время более благоприятное для обнародования новых интеграционных деклараций. Российское руководство, как и белорусское, нуждается в положительном образе. И дело здесь не только в экономическом кризисе, но и в ситуации вокруг Ирака, ясно показавшей, что великой державы с названием Российская Федерация нет (как, впрочем, никогда и не было, но до этого момента сей факт можно было хоть как-то скрывать от любопытствующей публики). И вдруг оказывается, что Россия способна на такое великое неподъемное дело, как создание, я бы даже сказал — созидание, союзного государства.

Партнер по иллюзии на этот раз у Александра Григорьевича оказался достойный — Евгений Максимович Примаков. Можно по-разному относиться к профессионализму Примакова как главы внешнеполитического ведомства или премьера, но его маргинальность — факт, кажется, неоспоримый. Он весь — из добротного прошлого, и слово «объединение» не может не ласкать слух нынешнего главы российского кабинета...

### Как это будет

А никак.

То есть, конечно, будет целый ряд впечатляющих мероприятий — я совсем не исключаю даже пышное проведение референдума о создании союзного государства.




Но весь процесс будет растянут таким образом, чтобы это государство возникло отнюдь не завтра и даже не послезавтра. Весь 1999 год пройдет под знаком чуть ли не возрождения Советского Союза, но в 2000 году никакого Союза не будет.

Ведь и российскому, и белорусскому руководствам нужен именно призрак союзного государства, но никак не само государство!

Можно еще предположить, что подобное государство необходимо Лукашенко с его мечтой о российском президентстве. Но Кремлю ведь решать совершенно иные задачи — ему и экономику стабилизировать, и кредиты западные получать, и амбиции регионов сдерживать... Между тем прозвучавшее чуть ли не в день обнародования намерений Москвы и Минска заявление президента Татарстана Минтимера Шаймиева о том, что в случае создания союзного государства его республика будет требовать для себя статуса, равного белорусскому, продемонстрировало, что в случае оживления одного призрака оживут и другие знаменитые привидения перестроечной эпохи — новоогаревский процесс, например. И тогда перепуганным российским политикам Беловежская пуща покажется детской забавой по сравнению с грядущим перераспределением полномочий! Тем более утопичной выглядит идея объединения валют, о которой вновь вспомнил Лукашенко. Сегодня никто не может поручиться за здоровье российского рубля, не говоря уже о его коченеющем белорусском собрате — вряд ли в этой ситуации российский Центробанк решится на фактическое уничтожение национальной валюты ради временного поддержания валюты бедного родственника... И таких доводов можно привести еще превеликое количество. Дело ведь не в них. Дело в политической целесообразности объявления о том, что союзное государство — будет!

И об этом будут говорить, говорить, говорить... А на фоне этих гордых разговоров будет медленно, но верно догорать свеча СНГ...

### Как это может быть

Но, впрочем, существует один — может быть, самый важный — резон создания союзного государства в 2000 году. Это последний год президентства Бориса Николаевича Ельцина. Конституционный суд России недавно решил, что Борис Николаевич не может баллотироваться на третий срок. Это страшно обидно. Но президент-то у союзного государства может быть! И избирать его можно поручить, например, верхним палатам парламентов стран-участниц — для усиления роли регионов в жизни нового Союза, а то вон в старом не учитывали, не учитывали... И полномочия президента союзного государства должны быть, конечно, значительно шире, чем полномочия президентов стран-участниц... Конечно же, даже коммунисты с радостью проголосуют за это — ведь это же Союз. Нерушимый!

Резиденция президента союзного государства — Кремль. У президента России тоже будет там маленький кабинетик, если вообще такой пост сохранят в Конституции. Разве не хватит союзной республике России постов глав палат парламента, премьер-министра? Пусть работают...

Это, конечно, выглядит утопией — но, как говорится, был бы здоров Борис Николаевич...

*Москва*

# Пырскі шампанскага

Адзін мой калега падлічыў, што шампанскае ў навагоднюю ноч змаглі дазволіць сабе толькі 63 працэнты гродзенцаў. Абзваніўшы гараджан, ён высветліў, што палова выпіла не больш за 200 грамаў гарэлкі ці іншых моцных напояў і крыху шампанскага, а трэць — практычна па бутэльцы гарэлкі. Карацей, гарэлка стала самым даступным з алкагольных напояў, не лічачы нізкагатункавых. Некаторыя з гараджан на пытанне пра шампанскае нядобрым словам успаміналі «галоўнага беларуса», які абяцаў усіх ім забяспечыць і па нізкіх цэнах. Рэальна шампанскае спачатку можна было купіць па 400-600 тысяч, а хто не паспеў — па 900 тысяч — 1,5 млн. рублёў. На рынку і ў першыя дні года яно па-ранейшаму прадавалася па 650 тысяч.

Да гэтых дзён у крамах на паліцах засталіся неразабраныя навагоднія падарункі з цукеркамі. Самыя немудрагелістыя каштуюць 286 тысяч, астатнія — ад 500 тысяч да мільёна з паловай. На рынку прывабны падарунак можна было купіць за 350 тысяч. Аздобай святочнага стала заўсёды лічылася ікра. У крамах чырвоная ікра каштавала яшчэ нядаўна 500 тысяч за маленькі слоічак, потым цана павялічылася ўдвая. На рынку ікры было процьма і яна не даражэла. Аднак, як вядома, цяпер вельмі шмат яе зроблена саматужным чынам. Пры мне некалькі разоў пакупнікі вярталі на рынку ўскрытыя бляшанкі, і прадаўцы не адмаўлялі, замянялі на іншыя. Нават даводзілася бачыць выкінутыя на снег буйныя чырвоныя ікраныя гронкі. Чырвоная рыба тым часам была ў крамах больш-менш даступнай: па 550 тысяч за кілаграм.

У свята заўжды дарэчы цукеркі. Зноў-такі, купляць іх значна выгадней на рынку. Напрыклад, невялікая каробка нямецкіх шакаладных цукерак з лікерам каштуе там 260 тысяч, а ў краме — удвая даражэй. Вашы госці ніколі не адмовяцца і ад кубка кавы. Самыя, бадай, лепшыя ў нас нямецкія гатункі *Jacobs* і *Chibo* на гродзенскіх рынках каштуюць 500-650 тысяч рублёў за 250-грамовы пачак, а ў краме — утрая даражэй. Тым, хто хацеў пачаставацца тортам, трэба было выбіраць: або «птушынае малако» ў сярэднім за паўмільёна, альбо — пячы самім. Таннейшыя тарты — меней, чымсьці за 300 тысяч, сталі звычайным сухім бісквітам, крыху абмазаным крэмам.

Трэба зазначыць, што ў гэтыя святы на рынках зноў паявіліся шампіньёны і чырвоныя памідоры. Адна прадаўшчыца назвала мне іх «залатымі» за кошт: адпаведна 600 і 800 тысяч рублёў за кілаграм. Цытрусавыя, каштавалі, канечне ж, менш.

Што датычыць недалікатэсаў, дык яйкі, напрыклад, рэальна можна было набыць толькі на рынку, дзе яны падаражэлі спачатку да 120, а потым адразу да 150 тысяч рублёў за дзесятак. А вось каўбасы ў Гродне, у параўнанні са сталіцай, каштуюць адносна нядорага — максімум 325 тысяч за кг, але і якасць часцей за ўсё адпаведная. За доўгія святочныя дні крамы апусцелі, але адразу пасля праваслаўных Калядаў прылаўкі зноў напоўніліся, у гэтыя выхадныя можна было набыць нават танную крывянку, лівер (63 тысячы за кг), сасіскі «Гродзенскія» (160 тысяч). Шынка прадавалася за 407 тысяч.

Да праваслаўнага свята ў крамах таксама амаль немагчыма было знайсці пітной вады і мінералкі, усю выпілі. Застаялася толькі *coca-cola*. Фірма нават надрукавала ў абласной газеце (тыражом 37 тысяч) два купоны — на 50 і 100 тысяч рублёў, прад'яўнік якіх атрымае напой танней на гэтыя сумы.

Адным словам, тыя прадукты, якія ёсць на рынку, часам значна выгадней купляць там, чымсьці ў крамах. Але і ў іх дбаюць пра станоўчыя змены. У гродзенскім «Цэнтральным гастраноме» з пачатку года стала магчымым купляць харчы па крэдытных картках, але большасць гараджан іх не мае.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Палац спорту застаўся без дырэктара

**Дырэктар Мінскага Палаца спорту Валерый Якунін звольнены з пасады з фармулёўкай "па ўласным жаданні».**

Як паведамляе агенцтва БелаПАН, Валерый Якунін быў звольнены 4 студзеня, прапрацаваўшы дырэктарам менш за год. Па звестках агенцтва, міністэрства спорту і турызму мела сур'ёзныя прэтэнзіі да работы дырэктара.

У прыватнасці, падчас дырэктарства В.Якуніна Палац спорту пертвараўся ў выставачны комплекс, з-за чаго была сарваная лядовая падрыхтоўка да чэмпіянату свету маладзёжнай зборнай Беларусі па хакеі.

*БелаПАН*

## Долары абмінаюць банкі

**У Магілёве павялічылася колькасць выпадкаў рэалізацыі фальшывых долараў.**

10 фальшывых стодоларавых купюр атрымаў жыхар Магілёва, калі прадаваў свой стары аўтамабіль. Амаль адначасова з гэтым выпадкам у абласным цэнтры зафіксаваны яшчэ 3 выпадкі з выкарыстаннем фальшывых «зялёных». Натуральна, што міліцыя аператыўна зрэагавала і заклікала грамадзянаў здаваць свае грошы ў афіцыйныя абменныя пункты.

Але пры сённяшняй розніцы ў курсе чорнага рынку і афіцыйнага народ гатовы рызыкаваць доларамі. У мясцовым упраўленні Нацбанка паведамілі віадавочнае: колькасць валюты, якую здаюць у «абменнікі», амаль не павялічылася ў параўнанні з трыма — чатырма апошнімі месяцамі.

**Іван ЗАСАДА**

*КАДРЫ*



IREX/ProMedia

## За желтым зайцем придет белый дракон

В Юго-Восточной и Восточной Азии используется древний китайский календарь с 60-летним циклом солнечных лет. В его основе лежит солнечно-юпитерный 12-летний цикл, каждый год в котором получил название тотемного животного. 12 лет — это время, за которое Юпитер совершает полный оборот вокруг Солнца. Календарь был создан так давно, что память об его создателях сохранилась только в сказочной форме: в глубокой древности император разослал приглашения животным в свой небесный дворец. Очередность их прихода в гости и отражена в календаре. Кошки в этом списке нет, поскольку собака забыла ее разбудить, что и привело к вечной взаимной вражде.

В каждом 60-летнем цикле одно и то же животное встречается пять раз с промежутками в 12 лет; поэтому для уточнения года внутри цикла служит цветовая символика.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Мышь** | **1 синий** | **13 красный** | **25 желтый** | **37 белый** | **49 черный** |
| **Корова** | **2 синий** | **14 красный** | **26 желтый** | **38 белый** | **50 черный** |
| **Тигр** | **3 красный** | **15 желтый** | **27 белый** | **39 черный** | **51 синий** |
| **Заяц** | **4 красный** | **16 желтый** | **28 белый** | **40 черный** | **52 синий** |
| **Дракон** | **5 желтый** | **17 белый** | **29 черный** | **41 синий** | **53 красный** |
| **Змея** | **6 желтый** | **18 белый** | **30 черный** | **42 синий** | **54 красный** |
| **Лошадь** | **7 белый** | **19 черный** | **31 синий** | **43 красный** | **55 желтый** |
| **Овца** | **8 белый** | **20 черный** | **32 синий** | **44 красный** | **56 желтый** |
| **Обезьяна** | **9 черный** | **21 синий** | **33 красный** | **45 желтый** | **57 белый** |
| **Петух** | **10 черный** | **22 синий** | **34 красный** | **46 желтый** | **58 белый** |
| **Пес** | **11 синий** | **23 красный** | **35 желтый** | **47 белый** | **59 черный** |
| **Свинья** | **12 синий** | **24 красный** | **36 желтый** | **48 белый** | **60 черный** |

Очередной цикл восточного календаря начался в 1984 и закончится в 2043 году. Нынешний год желтого зайца вступит в свои права 16 февраля. Так что для любителей новогодних ритуалов праздник впереди.

# Даты і лёсы

*12 студзеня*

**1580.** Нарадзіўся бельгійскі хімік Жан Батыст ван Эльмон, які адкрыў вуглякіслы газ і прыдумаў самое слова «газ» (ад грэчаскага «хаос»). У гэты ж дзень у **1899 г.** нарадзіўся швейцарскі хімік Пауль Мюлер, стваральнік інсектыцыду ДДТ, за які атрымаў Нобелеўскую прэмію 1948 г.

**1591.** Мінск атрымаў свой герб — «Унебаўзяцце панны Марыі». Рамеснікі былі абавязаныя ставіць гербавае кляймо на таварах, што ствараліся на экспарт.

**1628.** Нарадзіўся французскі казачнік Шарль Перо, аўтар «Ката ў ботах», «Спячай прыгажуні», «Чырвонага каптурка».

**1769.** Вайна з Турцыяй вымусіла Расію ўпершыню выпусціць папяровыя грошы на 1 млн. рублёў.

**1950.** Брытанская субмарына *Truculent* сутыкнулася ў Тэмзе са шведскім караблём і затанула. Загінула 65 чалавек.

**1989.** У дзень Усесаюзнага перапісу ў Беларусі жылі 10.200.200 чалавек.

*13 студзеня*

**27 да н.э.** рымскі палкаводзец Актавіян пасля перамогі ў грамадзянскай вайне склаў з сябе дыктатарскія паўнамоцтвы і аднавіў рэспубліку. За гэта сенат узнагародзіў яго тытулам «Аўгуст» і перайменаваў пасля ягонай смерці месяц секстылій у месяц аўгуст.

**1919.** У Маскве быў абрабаваны аўтамабіль, у якім Ленін ехаў наведаць хворую Крупскую. Старшыня СНК паказаў рабаўнікам сваё пасведчанне, але тыя, напаўпісьменныя, прачыталі ягонае прозвішча як Левін і толькі ўмацаваліся ў думцы, што перад імі — багаты бізнесмен. Бандыты адабралі аўтамабіль, пасведчанне, грошы і асабісты браўнінг Ільіча. Чэкісты ліквідавалі гэтую банду толькі праз некалькі тыдняў.

**1919.** Старшыня Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Адэсе С.Некрашэвіч звярнуўся да камандуючага экспедыцыйнага корпуса Антанты генерала Бертэло з прапановай стварыць Заходнюю Беларускую Армію, абяцаючы набраць з бежанцаў вайсковы кантынгент да 40 тыс. чалавек. Гэтыя планы не ажыцьцявіліся.

**1974.** У Даласе (Тэхас) адчыніўся найбуйнейшы ў свеце аэрапорт. У гэты ж дзень у 1982 г. у Вашынгтоне разбіўся авіялайнер *Boeing 737*. Каб пазбегнуць ахвяраў на зямлі, пілоты скіравалі падаючы самалёт у раку Патамак, але ў выніку разбурылі мост і patапілі 5 караблёў. Загінула 78 чалавек.

*14 студзеня*

**1814.** Данія, якая была хаўруснікам разбітага Напалеона, была вымушаная саступіць Нарвегію Швецыі.

**1907.** У выніку землятрусу на Ямайцы загінулі 1.400 чалавек. Адзін з дактароў, што ратавалі параненых, звар'яцеў і зрабіў дзесяткі непатрэбных ампутацыяў.

**1938.** У ЗША з вялікім поспехам адбылася прэм'ера першага поўнаметражнага каляровага мультфільма «Беласнежка і сем гномаў».

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Вершы з-за калючага дроту

**У Гродне выйшла кніжка жыхара Слоніма Васіля Супруна «Незабыўныя «ксівы», якая мае падзагаловак «Вершы з падпольнай канцлагернай перапіскі з Ларысай Геніюш».**

Васіль Супрун піша ў кнізе, што быў зняволены на 25 гадоў плюс 5 гадоў пазбаўлення праваў за арганізацыю і кіраўніцтва беларускім патрыятычным падполлем ў 1946-47 гадах. Адбываючы пакаранне на Поўначы, ён даведаўся, што непадалёк у канцлагеры знаходзіцца вядомая паэтка Ларыса Геніюш. Пазнаёміцца з ёй удалося завочна пры дапамозе падпольнай сувязі, якую наладзілі сябры-ўкраінцы. Яны пасылалі адно аднаму запіскі, скручаныя трубачкай, якія называліся «ксівамі», часта прыкладаючы да іх свае вершы. Па ўмовах канспірацыі змест пошты павінен быў быць выключна асабістым: ніякай палітыкі. Бо інакш «паштальёны» рызыкавалі значна больш.

Па дамоўленасці, усё, што было напісана рукой Ларысы Геніюш, Васіль Супрун павінен быў знішчыць. Але яму было шкада яе вершаў, якія ён перапісваў, зашыфроўваючы асобныя словы, і пры любой нагодзе перасылаў на Беларусь. Іхняе ліставанне працягвалася з пачатку 1953 і да канца 1954 года, калі яго перавялі ў іншы лагер. Частка перапіскі прапала, бо была схавана на шахце N5 і ён не змог яе забраць. Частка захавалася дзякуючы таму, што была зашыта ў ягоный лагерны ватоўцы. Васіль Супрун зазначае, што Ларыса Геніюш перапісвалася патаемным чынам таксама з вязнямі-беларусамі з іншых савецкіх канцлагераў. «Незабыўныя ксівы» былі выдадзены Гродзенскім абласным грамадскім аб'яднаннем «Ратуша».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

Выканаўчае бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) выказвае шчырае спачуванне намесніку старшыні БСДП, прэзідэнту Усебеларускай жаночай лігі Стужыскай Ніне Іванаўне з нагоды смерці бацькі.

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1278 Нумар падпісаны ў друк 05/01/99 (15:00) Наклад — 17.640